ГРУЗІНСКАЙ ССР — 40 ГОД

# Мой сябра Шота



Праз Дар'яльскую цясніну і высакагорныя пашы Кобі на Крыжовы перавал ідуць апошнія машыны. Я спяшаюся ў Тбілісі. Праз некалькі дзён перавал да сакавіка будзе закрыты — на яго вяршыні ўжо гудзе ледзяны вецер. Снежныя аблокі вялікімі шэрымі жмутамі паўзуць па схонах Каўказскага хрыбта. Безумоўна, я мог бы ехаць у Тбілісі поездам, але ў гады вайны я многа чуў расказаў аб дзівоснай прыгажосці Дар'яла, аб Мцхецкім замку, які навеяў Лермантаву цудоўную паэму «Мцыры», аб Млецкім бяздонні, на беразе якога, паводле паданняў, складаліся славутыя пушкінскія радкі: «Каўказ пада мною...».

Я даў яму слова, што як толькі скончыцца вайна... І вось цяпер на яго роднай зямлі да драбніц успамінаю нашу сустрэчу і знаёмства. Ён прыйшоў да нас у часць напярэдадні бою недзе пад Віцебскам. Сярэдняга росту, крыху сутулы, чарнавокі, з лёгкім шызым пухам на верхняй губе і добрай усмешкай — такім я ўбачыў яго першы раз каля бліндажа і такім застаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё мой сябра — салдат Шота Натэнадзе.

Гэта быў цяжкі час. Цэлыя суткі грукатала артылерыя, зямля, здавалася, стагнала і варочалася, як хворы, а паветра было напоўнена дымам і, порахам. Вораг яшчэ не ўцякаў. Ён адыходзіў не спяшаючыся, злосна, нават спрабаваў наступаць. Былі дні і тыдні штыкавых атак, начных маршаў, абаронных баёў. Адным такім днём прыйшоў Шота. Ён скінуў рэчавы мяшок, расшпіліў шынель і, сеўшы на дрэва, паваленае снарадам, працягнуў да ледзь тлеючых вугельчыкаў тонкія, як у піяніста, пальцы.

— З запаснога палка? — спытаўся я.

Шота кіўнуў. Мы разгаварыліся.

— З Грузіі?

— Так. А ты?

— З Беларусі.

— Значыць, я ў цябе ў гасцях?

— Дрэнна прымаю гасцей, Шота. У маім доме вораг.

— Нічога. Вось скончым... Будзем ездзіць адзін да другога ў госці. Прыязджай да мяне ў Тбілісі. Вуліца Паліашвілі, 26.

І ён і я добра разумелі, што абодва мы можам не ўбачыць светлы дзень перамогі. Але не пра смерць стараўся думаць салдат на вайне. Пра перамогу думаў. І Шота, задуменна паціраючы над вуголлямі далоні, упэўнена сказаў:

— Надыйдзе час, і пра нас напішуць кнігі.

Тады я не зразумеў, чаму Шота гаворыць пра кнігі. Толькі пазней, калі мы былі паранены і трапілі ў шпіталь, я даведаўся, што Натэнадзе — вялікі аматар кніг.

Два дні на нашым участку фронта было зацішша. У зводках Савінфармбюро пра гэтыя дні гаварылася скупа: «Без істотных змен». Баі сапраўды спыніліся. Але часць рыхтавалася да штурму пярэдняга краю праціўніка. І кожнаму было зразумела, што гэта своеасаблівы бой, што ў ім — палова будучага поспеху.

Шота старанна чысціў аўтамат. Ён праціраў ствол шчолаччу, глядзеў праз яго на неба, прыжмурыўшы левае вока. Днём шалёны снарад трапіў у кухню, і мы засталіся без абеду. Кухар, на шчасце, застаўся жывы, але настрой у салдат быў сапсаваны: хацелася есці. Кожны пачаў шукаць што-небудзь у рэчавым мяшку, выцягваючы запасы.

Шота дастаў дзве пачкі грэцкага канцэнтрату. Потым знайшоў вядро і пайшоў з ім у пералесак. Праз гадзіну ўвесь узвод сёрбаў грэцкую паліўку. Шота быў шчаслівы, што зрабіў прыемнае таварышам. Ён весела жмурыў чорныя вочы, пытаўся:

— А ты чахахбілі еў?

— Не еў чахахбілі, — прызнаўся я. — А ты дранікі еў?

— Што такое дранікі?

— Ну, бульбяныя аладкі... Прыязджай да нас, калі прыкончым фашыста... Пачастую цябе дранікамі.

Потым Шота дастаў невялічкі блакнот і, сеўшы ў акопчыку, стаў паспешліва пісаць. Я глядзеў на яго і здавалася што пісаў ён нешта асабліва важнае, тэрміновае. Вочы яго былі суровыя, а губы моцна сцяты.

Праз дзень на світанні мы пайшлі ў бой. Мы беглі цераз балота. Справа, і злева, і спераду ўздымалася фантанамі зямля, свістала над галавою жалеза. Шота, выставіўшы ўперад аўтамат, бег да траншэй ворага. Ён нешта крычаў. У грукаце бою да мяне даляталі словы: «За Радзіму!..» У клубах дыму я на нейкае імгненне згубіў Шоту. Рота імкліва рухалася ўперад. Раптам быццам з-пад зямлі вырасла сутулая, знаёмая спіна. Шота быў без пілоткі, у разадранай на спіне гімнасцёрцы. Вось ён апусціўся на зямлю, прыціснуўшы левую руку да грудзей. Я падбег да яго. Натэнадзе працадзіў скрозь сціснутыя зубы:

— Бяжы, бяжы... Я, здаецца, паранены.

— Трымайся! — крыкнуў я. — Ідуць санітары...

Я прабег некалькі дзесяткаў метраў.

Мы сустрэліся з Шотам у медсанбаце. Яго параніла ў руку, ён страціў шмат крыві, быў бледны. Першае пытанне яго было:

— Выбілі фашыстаў?

— Выбілі.

Глянуўшы на маю забінтаваную нагу, пачаў спагадліва супакойваць мяне, быццам сам не быў паранены, а толькі прыйшоў наведаць мяне.

Нас паклалі побач. Вольнага часу было многа, і мы няспынна гутарылі. Гаварылі аб усім. Аб вайне — суровай і жорсткай, аб далёкіх сваяках, аб родных краях. Шота добра ведаў грузінскую літаратуру і напамяць дэкламаваў з «Віцезя ў тыгравай шкуры», вершы Леанідзе і Абашыдзе. Мяне ўзрадавала, што ён чытаў раман «Будучыня» Эдуарда Самуйлёнка. Ён ведаў, што кніга гэтая з'явілася ў выніку паездкі аўтара ў Тбілісі ў 1935 г. Потым я даведаўся, што Шота піша вершы. Ён пісаў іх у перапынках між баямі. Шоту не трэба было доўга прасіць прачытаць іх: ён з ахвотаю вымаў блакнот, амаль што ўвесь спісаны дробным, убогістым почыркам.

Майстэрства ў гэтых вершах было яшчэ мала. Затое яны былі напоўнены вялікай думкай аб дружбе савецкіх народаў, аб магутнасці і сіле нашай зброі. Такіх вершаў у блакноце Шоты было многа. Пісаў ён і лірычныя вершы, у якіх услаўляў непаўторную прыгажосць роднага Каўказа. Я пераклаў некалькі вершаў напісаных Шотам, але, на жаль, яны не захаваліся ў памяці.

Натэнадзе цікавіўся беларускай літаратурай, распытваў у мяне пра Янку Купалу, пра Мінск.

У хуткім часе мы расталіся—Шоту павезлі ў іншы шпіталь. Сустрэцца нам больш не давялося. Натэнадзе пасля таго, як ачуняў, адразу прыняў удзел у баях і, штурмуючы ўмацаванні ворага на поўнач ад Віцебска, загінуў смерцю адважных. Як паведамілі таварышы з часці, рэчавы мяшок Натэнадзе, у якім знаходзіўся і блакнот з вершамі, падабраў на полі бою радавы Тумашвілі. Ці застаўся жывы Тумашвілі? Ці захаваў ён блакнот?

Праз семнаццаць год я ўсё ж прыехаў у Тбілісі і адразу накіраваўся на вуліцу Паліашвілі ў дом № 26. Сям'ю Натэнадзе там не ведалі, але адзін пажылы мужчына сказаў, што прозвішча яму знаёмае і што гэтыя жыхары яшчэ ў гады вайны пераехалі ў другі горад — ні то ў Ачамчырэ, ні то ў Сухумі.

Тры дні я жыву ў ветлівай гасцініцы «Грузія». Яна ў цэнтры горада. Побач — адвечна малады, адвечна прыгожы праспект Руставелі. На праспекце — станцыя фунікулёра. У маленькай кабінцы я ўзнімаюся на гару Мтацмінда. Горад, зацягнуты ружовай ранішняй смугой, увесь як на далоні. Горад-працаўнік. Крыху правей — далёкія контуры буйнейшых у рэспубліцы электравозабудаўнічага і машынабудаўнічага заводаў, камвольна-суконнага камбіната, фабрыкі адзення. Злева — высокія жылыя будынкі. Адзін з іх на праспекце Чаўчавадзе. Сцены яшчэ ў рыштаваннях, але добра відаць цудоўны нацыянальны арнамент, які акаймоўвае карнізы, вялікія светлыя вокны. Аб велічыні будынка гаворыць і тое, што каля 500 квадратных метраў плошчы на першым паверсе прадастаўлена стаматалагічнай паліклініцы.

У гэтыя дні Грузінскае дзяржаўнае выдавецтва выпусціла з друку восьмы том твораў выдатнага педагога, пісьменніка, грамадскага дзеяча Якава Гогебашвілі, 120-годдзе якога адзначалі працоўныя рэспублікі. У гэтыя дні ў тэатрах імя Марджанішвілі, ТЮГ'у, Лялечным, імя Паліашвілі ішлі нацыянальныя спектаклі «Маё Квавілеці», «Нацаркекія», «Мзечабукі», — аб жыцці грузінскага народа.

Я хаджу па сонечных вуліцах Тбілісі і прыгадваю Шоту Натэнадзе, яго вершы. Думаю пра тое, што дружба, змацаваная крывёю грузінскага і беларускага народаў у гады вайны, мацнее з кожным днём. Аб гэтым сведчаць факты. Беларускія хлебаробы — частыя госці ў калгаснікаў Грузіі. У гарадах Тбілісі, Кутаісі, Сухумі перавозяць грузы 25-тонныя МАЗ'ы, створаныя мінскімі аўтабудаўнікамі. У сталіцы Грузіі пабываў вялікі артыстычны калектыў — харавая акадэмічная капэла пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. У Мінску выдадзены раман Т. Донжашвілі «На Алазані» ў перакладзе на беларускую мову, а на сцэне Беларускага тэатра оперы і балету выступалі артысты грузінскай оперы.

Светлая зара ўзнялася над маёй зямлёй. Народ Беларусі свята шануе памяць тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы. Шкада толькі, што не бачыць гэтай зары верны салдат Радзімы, мой сябра Шота Натэнадзе.

Ілья КЛАЗ.

# З НЕЗАБЫЎНЫХ ДАРОГ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Спыняемся ля будынка Пінкавіцкай школы, у якой працаваў Якуб Колас. Многа тут адбылося змен. У 30-х гадах да будынка зрабілі прыбудову з сенцамі, змянілі і планіроўку пакояў. На ўсё час паклаў сляды старасці. І ўсё ж не цяжка адшукаць пакойчык, адкуль «адно акно выходзіць на выган, другое — на зарэчча». За столікам, які стаяў каля гэтых вокнаў, было ўлюбёнае месца паэта. Тут ён працаваў, прымаў гасцей, вёў гутарку з сялянамі.

У Пінкавічах малады паэт упершыню пазнаёміўся з нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай. А ў лістападзе 1905 года ў будынку школы ён выступіў на шматлюдным сходзе сялян з палымянай прамовай у абарону іх правоў. Сход абмяркоўваў пытанні аб незаконным карыстанні памешчыкам Скірмунтам затокамі і сенажацямі, якія належаць сялянам. Ад імя сялян Якуб Колас склаў петыцыю, у якой патрабавалася:

«1) Уступіць у іх поўнае карыстанне затокі і сенажаць, з прадастаўленым правам лоўлі рыбы у двух азёрах, збору чароту і г. д.

2) Вярнуць у іх поўнае распараджэнне для бясплатнага карыстання ўрочышча «Гусак».

3) Пры задавальненні гэтых патрабаванняў выдаць дакумент, які забяспечвае іх права на карыстанне затокамі, сенажацямі і дзялянкай зямлі ў колькасці 77 дзесяцін для пашы».

З прычыны такой падзеі інспектар народных школ 6-га ўчастка Мінскай губерні выязджаў на месца расследаваць справу. У хуткім часе ён паведамляў дырэкцыі народных школ Мінскай губерні: «Калі спытаўся ў Міцкевіча пра яго ўдзел у аграрным руху сялян Пінкавіцкай абшчыны, дык ён чыстасардэчна заявіў мне, што ён перакананы ў справядлівасці патрабаванняў, прад'яўляемых сялянамі да памешчыка Скірмунта, па іх просьбе напісаў ім петыцыю...»

Далей інспектар пісаў:

«Пагутарыўшы грунтоўна з настаўнікам, я зрабіў яму строгае ўнушэнне і ўказаў на ўсю недарэчнасць выступаць у ролі кіраўніка аграрнага руху таму, што па самой ідэі свайго служэння павінен сеяць разумнае, добрае, вечнае, а не абуджаць страсці народныя. Я расслумачыў, што з падобнага роду рэчамі жартаваць нельга, таму што хваля аграрных беспарадкаў, пачаўшыся з сяла Пінкавічы, можа захапіць увесь павет і тады настаўнік будзе вінаваты ў тым горы і няшчасці, якія з'яўляюцца непазбежнымі спадарожнікамі аграрных беспарадкаў.

У заключэнне лічу абавязкам паведаміць в. п., што да мясцовага прадвадзіцеля дваранства паступіла некалькі заяў з боку бліжэйшых да Пінкавіч памешчыкаў, якія просяць перавесці Міцкевіча ў другое месца, баючыся, што ён будзе дрэнна ўплываць на мясцовых сялян. Я з свайго боку не прыйшоў да канчатковага рашэння па гэтаму пытанню, таму што баюся, каб перамяшчэнне Міцкевіча не выклікала яшчэ большага хвалявання сярод сялян, якія да яго вельмі прывязаны, а таксама не штурхнула б на якое-небудзь злачыннае дзеянне і іншых настаўнікаў Пінскага павета, якія наўрад ці паставяцца пасіўна да лёсу аднаго са сваіх таварышаў».

Просьбы памешчыкаў былі ўлічаны і, як паведамляе Пінскі павятовы іспраўнік мінскаму губернатару 9 лютага 1906 года, «...настаўнік Міцкевіч за прыняцце ўдзелу ...у незаконным прад'яўленні сялянамі сяла Пінкавічы да памешчыка Скірмунта патрабаванняў дырэкцыяй народных школ перададзены, у парадку пакарання, з Пінкавіцкай у Верхменскую народную школу Ігуменскага павета, куды выехаў у першых днях студзеня месяца гэтага года».

Тыя змрочныя дні адыйшлі ў мінулае. Сёння толькі аб гэтым прыходзіцца ўспамінаць. У пінкавіцкіх сялян добра ідуць справы ў калектыўнай гаспадарцы. Іх дзеці вучацца ў школе-дзесяцігодцы, якая размешчана ў прыгожым двухпавярховым цагляным будынку, а ў старым будынку зараз знаходзіцца школьны інтэрнат.

## 3. Сцежкі вядуць да знаёмых

Многім было вядома, што Якуб Колас у 1911 годзе пасля адбыцця турэмнага зняволення прыязджаў у горад Лунінец і некаторы час жыў у нейкага Філіповіча.

Колькі тут жыў? Дзе? У якога Філіповіча? Ніхто не ведае.

Разам з выкладчыкам гісторыі Георгіем Вайндрахам мы пачалі пошукі.

У Лунінцы шмат хто чуў пра Філіповіча, які меў калісьці мясную краму. Дом, у якім ён жыў, і зараз стаіць на Маскоўскай вуліцы. Але ж якія адносіны мог мець гэты гандляр да настаўніка, маладога тады яшчэ паэта-пісьменніка? Тут, відавочна, якаясь блытаніна? Закрадвалася недаверлівасць. Неадступна снавалася думка, што трэба шукаць другога Філіповіча, які, верагодна, павінен быў быць настаўнікам. Рашылі «перабраць» усіх старажылаў горада, перш за ўсё настаўнікаў. Мы пабывалі на Залессі, у Палхоўскай Зоі Іванаўны, у Руткоўскага Станіслава Віктаравіча, на Віленскай вуліцы. Апошні дапамог высветліць некаторыя дэталі адносна гандляра Філіповіча. Аказалася, што Станіслаў Філіповіч меў трох сыноў — Генрыха, Людвіга і Зыгмунда. Але ніхто з іх ніколі не працаваў настаўнікам. З іх сям'і і іх сваякоў зараз у Лунінцы ніхто не жыве. Пра іншага Філіповіча Руткоўскі нічога не чуў. А Валасевіч Юрый Маркавіч параіў нам зайсці да свайго таварыша Максіма Санюковіча, які жыве па вуліцы Сеннай.

— У 1911 годзе, — расказаў Юрый Маркавіч, — я служыў у войску, а ён працаваў лістаношам. Калі Санюковіч не ведае нічога, дык тады ніякага другога Філіповіча, мабыць, і не было.

Прыйшлі на Сенную, 6. На парозе нас сустрэла маладая жанчына. Пытаем: тут жыве Санюковіч Максім?

— Тут, — пачуўся адказ. — Гэта мой бацька. Мы абрадаваліся. Але неўзабаве пачулі:

— Яго няма дома, паехаў да сваякоў у вёску.

— Калі прыедзе?

— Можа заўтра вечарам, а мо' паслязаўтра.

З Вайндрахам дамовіліся сустрэцца ў 7 гадзін вечара. Калі мы спаткаліся, то ён нечакана паведаміў, што яго жонка параіла сустрэцца з настаўніцай-пенсіянеркай Любоўю Мікалаеўнай Савінскай. Яна некалькі год таму назад працавала ў школе і неяк успамінала, што бачыла Коласа. Мы вырашылі наведаць яе.

Вуліца Пралетарская, 40. Стукаем у дзверы. Нам адчыніла сястра настаўніцы Савінскай, Надзея Мікалаеўна Прорвіч.

— Ці дома Любоў Мікалаеўна? — пытаем яе.

— Дома, заходзьце, калі ласка!

Любоў Мікалаеўна — старэнькая жанчына са строгімі рысамі твару. Калі мы запыталіся, ці ведае яна што-небудзь пра настаўніка Філіповіча, вочы яе імгненна заіскрыліся, акінулі нас... зацікаўленым поглядам.

— Філіповіч быў маім першым мужам, — усхвалявана адказала Любоў Мікалаеўна. — Ён загінуў у першую сусветную вайну.

— Як звалі яго?

— Валодзя, — а затым дадала: — У яго быў і старэйшы брат Вінцэнт, таксама настаўнік, жыў і працаваў у Лунінцы.

— А ці чулі вы што пра Коласа?

— А як жа, чула, доўгі час ён гасціў у Вінцэнта...

Мы абрадаваліся такой навіне і папрасілі ў гаспадыні дазволу распрануцца. Наша гутарка зацягнулася да поўначы. Высветлілася, што Якуб Колас прыехаў у Лунінец да свайго сябра Вінцэнта Філіповіча ў першай палове лістапада 1911 года. У мінулым яны абодва вучыліся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. У Лунінцы Вінцэнт Філіповіч працаваў загадчыкам пачатковай народнай школы. Школа тады знаходзілася на месцы, дзе зараз стаіць будынак гарадской сярэдняй школы № 1. Акрамя працы ў школе, Вінцэнт Філіповіч прыватным парадкам рыхтаваў групу вучняў для паступлення ў рэальнае вучылішча. Калі да яго прыехаў Якуб Колас, які нідзе пасля адбыцця турэмнага зняволення не мог атрымаць пасаду настаўніка (бо не меў паперкі аб добранадзейнасці), то Філіповіч перадаў свайму сябру прыватныя заняткі з вучнямі. Праца з вучнямі Якубу Коласу аплочвалася 25 рублямі ў месяц. Праз некаторы час заробак павялічыўся. Стварыліся спрыяльныя ўмовы для творчай працы. Якуб Колас пачаў пісаць першую частку паэмы «Сымон-музыка», задума якой узнікла яшчэ ў турме.

У Лунінцы Якуб Колас жыў да сакавіка 1912 года. Тут напісаў некалькі вершаў і апавяданняў. Акрамя гэтага, выконваў даручэнні рэдакцыі «Нашай нівы» па апрацоўцы матэрыялаў. Выехаў ён з Лунінца ў сувязі з тым, што вайсковае начальства пачало наводзіць аб ім даведкі.

Якуб Колас, будучы ў гасцях у Вінцэнта Філіповіча, часта наведваў кватэру яго брата Валодзі Філіповіча, якая размяшчалася па Садовай вуліцы ў «шыкарным» доме Падгурскага». Будынак гэты добра захаваўся і па сённяшні дзень (цяпер вуліца Савецкая, 43). У кампаніі братоў Філіповічаў і жонкі Валодзі Колас абмяркоўваў літаратурныя навіны, абменьваўся думкамі аб надзённых справах сярмяжнага люду. Паэт чытаў сябрам свае творы. Любоў Мікалаеўна асабліва добра памятае, што Якуб Колас спяваў песню «Калыханка». Аўтар выконваў яе неаднаразова. Колас часта расказваў народныя жарты.

Малады паэт быў частым госцем і ў бацькоў Любові Мікалаеўны. Гэта была культурная сям'я. Маці Любові Мікалаеўны — Соф'я Прорвіч, сама літаратар, пісала вершы, друкавалася ў тагачасных рускіх газетах і часопісах.

— Які далейшы лёс братоў Філіповічаў?

— У першую сусветную вайну яны былі забраны ў войска. Валодзя загінуў пад Наваград-Валынскім. Пра Вінцэнта з таго часу больш нічога не чула, — з сумам закончыла свой расказ Любоў Мікалаеўна.

— А ці няма ў вас фатаграфій, хочацца глянуць на іх, — папрасілі мы. Гаспадыня ахвотна адшукала калекцыю сямейных фатаграфій, і мы пачалі ўсе разам іх разглядаць.

У рукі папалі некалькі ваенных здымкаў братоў Філіповічаў. Асаблівую сімпатыю выклікала фатаграфія, на якой Вінцэнт Антонавіч у вайсковай гімнасцёрцы без усякіх упрыгожванняў на пагонах, стрыжаны пад бубен, «гранадзёрскія вусы», бародка, з адкрытага твару пазіраюць дзесьці ў далячынь задуменныя вочы. Унізе ўласнаручна ім падпісана: «Аніка-воін». На адваротным баку фатаграфіі некалькі цёплых і суцяшальных радкоў пісьма да бацькоў, а ў левым кутку стаіць дата: «1916 год».

Прагледзеўшы калекцыю сямейных фатаграфій, мы ізноў узялі ў рукі здымак легендарнага «Анікі-воіна», глядзелі на аўтограф і думалі: які лёс напаткаў гэтага чулага і вернага таварыша, хто ў цяжкую часіну даў прытулак свайму сябру, будучаму вялікаму паэту?..



На здымках: 1 (уверсе). Каўказ. Сяленне Казбегі. 2. Праспект Руставелі ў Тбілісі.

Фота аўтара.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

Шэфскі спектакль для воінаў Савецкай Арміі — камічную оперу І. Штрауса «Цыганскі барон» паказаў Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балету. У спектаклі прынялі ўдзел С. Друкер, Т. Шымко, З. Салаўёва, П. Дружына, В. Ганчарэнка, Ю. Спярански, Р. Яўраеў і інш. Дырыжыраваў І. Абраміс.

З шэфскімі канцэртамі перад воінамі Мінскага гарнізона выступілі артысты Тэатра оперы і балету, філармоніі, радыё.

* * *

Для слухачоў універсітэта культуры Бабруйска Саюз кампазітараў БССР наладзіў лекцыю-канцэрт «Беларуская музыка».

Музыказнаўца Я. Ракава расказала слухачам аб сучаснай беларускай музыцы, аб вядомых і папулярных творах беларускіх кампазітараў.

Арыі з опер, рамансы і песні, інструментальныя творы Я. Цікоцкага, Р. Пукста, Г. Вагнера, А. Туранкова, Ул. Алоўнікава, Ю. Семянякі выканалі народны артыст БССР М. Дзянісаў, артысты Л. Ілюковіч, М. Марозава, Ю. Матраеў, Л. Гарэлік, В. Фамічэнка.

У канцэрце-лекцыі прыняў удзел кампазітар Г. Вагнер, які падзяліўся з прысутнымі сваімі творчымі планамі і выканаў урыўкі з балету «Падстаўная нявеста».

* * *

У гарадах Народнай Рэспублікі Балгарыі — Сафіі, Плоўдзіве, Русе, Бургасе з поспехам прайшлі гастролі галоўнага дырыжора Беларускай дзяржаўнай філармоніі заслужанага артыста БССР В. Дуброўскага.

Беларускі дырыжор у праграму пяці канцэртаў уключыў сюіту з балету лаўрэата Ленінскай прэміі А. Хачатурана «Спартак», «Пятую сімфонію» і «Італьянскае капрычыо» П. Чайкоўскага, творы Ф. Мендэльсона, Р. Штрауса, К Дэбюсі.

Разам з В. Дуброўскім у канцэртах прынялі ўдзел і балгарскія выканаўцы. Так, у горадзе Русе трэці канцэрт для фартэпіяна з аркестрам выканала піяністка Каця Рашэнава, у Бургасе арыі з опер выконваў саліст Сафійскай оперы, лаўрэат Дзімітраўскай прэміі Аляксей Мілкоўскі (бас).

У сакавіку В. Дуброўскі з групай майстроў мастацтва Савецкага Саюза выедзе на гастролі ў Парыж.

* * *

У Мінску з поспехам выступіў вядомы савецкі піяніст, заслужаны артыст РСФСР Якаў Зак. Маскоўскі артыст у суправаджэнні аркестра Беларускай філармоніі выканаў канцэрт І. Брамса для фартэпіяна з аркестрам.

## У секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў

Агульны сход секцыі паэзіі вырашыў сістэматычна праводзіць творчыя вечары паэтаў. Першы такі вечар адбудзецца 28 лютага ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР. На ім выступяць з чытаннем сваіх новых твораў маладыя паэты Рыгор Барадулін і Сцяпан Гаўрусёў. Уступнае слова скажа Максім Лужанін.

Вечар пачнецца а 7 гадзіне. Запрашаюцца пісьменнікі, настаўнікі, студэнты, вучні старэйшых класаў, члены літаратурных аб'яднанняў.

ШАНАВАЦЬ РОДНУЮ ПРЫРОДУ

# Гэта выклікае трывогу

Фашысцкія акупанты высеклі, спалілі, захламілі каля 600 тысяч гектараў беларускага лесу, нанеслі лясной гаспадарцы велізарныя страты. Аднаўленне знішчаных, спаленых гітлераўскімі вылюдкамі гарадоў, сёл, фабрык і заводаў запатрабавала велізарнай колькасці лесаматэрыялаў. Мы былі вымушаны штогод высякаць амаль у два разы болей лесу, чым гэта дазваляла разумнае гаспадаранне. Такой была неабходнасць.

Але мы былі б вельмі дрэннымі гаспадарамі, каб не клапаціліся аб пастаянным аднаўленні нашых лясных багаццяў. У пасляваенныя гады ў рэспубліцы шырокі размах набылі работы па пасеву і пасадцы лесу. Варта прыгадаць, што за апошнія толькі 14 год пасеяна і пасаджана лесу на плошчы больш 800 тысяч гектараў. У апошні час у народзе стаў папулярным заклік: «Ссек дрэва — пасадзі два!»

У лесе, як нідзе, вялікая ўлада часу. Чалавечага жыцця не хапае, каб вырасціць і выспеліць дуб і сасну, яліну і клён. Чалавек, які пасее жыта, пасадзіць бульбу — сам збірае ўраджай. У лесе ўсё інакш. Крэсла, на якім мы сядзім, зроблена з таго дрэва, што расцілі продкі, а той лес, які сёння саджаем, будуць скарыстоўваць нашы нашчадкі.

Шырока вядома, што лясістасць нашай рэспублікі зараз самая высокая за апошнія сорак з лішнім год. У 1917 г. яна складала 22, у 1940 г. — 24, у 1945 г. — 21 працэнт тэрыторыі. Зараз жа амаль 32 працэнты зямель рэспублікі пакрыты лесам.

— Гэта цудоўна, — скажа кожны, каму дорага родная прырода.

Але чаму так устрывожаны лесаводы? Чаму з глыбокім хваляваннем яны гавораць пра лёс беларускага лесу? Можа не вераць сваім жа лічбам?

Не, лічбы самыя дакладныя, яны ні ў кога не выклікаюць сумнення. Але лічбы не даюць уяўлення аб узросце лесу. Для іх усё адно, што гадовая, што стогадовая сасна. У народзе кажуць: трымайся за дубок, ён коранем глыбок!

Справа ў тым, што такіх дубкоў, за якія можна трымацца ў нашых лясах, застаецца з кожным годам усё менш і менш. Іх не могуць замяніць тыя дубкі, што праклюнуліся з жалудоў, што пасаджаны ў лункі. Нашы лясы ў асноўным складаюць маладнякі. Спелых дрэў засталося зусім мала. І часта можна бачыць, як высякаюцца маладыя дрэвы.

Мне давялося аднойчы бачыць, як у Кішчына-Слабодскім лясніцтве Барысаўскага лясгаса, наўсцяж дарогі з Лютцаў у Плітчанку, высякаўся малады сасновы бор. Леспрамгас Міністэрства будаўніцтва, які рабіў гэта, мае вострую патрэбу ў піловачніку, а нарыхтоўвае падтаварнік... Разлік просты: лес — ля дарогі, яго лёгка вывозіць. Хоць з яго і не атрымаюцца дошкі, але па што-небудзь спатрэбіцца. Ці ж гэта па-гаспадарску? Такі лес павінен быў расці яшчэ 30—40 год, а яго ссеклі сёння і загубілі на 15 тысяч кубаметраў, мабыць, сто тысяч соснаў!

У нас мала спелага лесу. Дзень і ноч грукочуць па чыгунках краіны саставы, нагружаныя драўнінай для Беларусі. З Вусць-Абакана, Краснаярскага края вязуць у Гомель піламатэрыялы, з Уралу, Волагды, Кастрамы, Карэліі — піловачнік, фанерную сыравіну, рэзанансныя бярвенні, лыжную бярозу, асіну для запалак на заводы, фабрыкі, камбінаты рэспублікі. Вязуць, бо не стае лесу, якога многа патрабуе народная гаспадарка.

І ў той жа час у нас марна гінуць тысячы кубаметраў сваёй каштоўнай драўніны. Галоўны ляснічы Брэсцкага абласнога ўпраўлення лясной гаспадаркі тав. Каўшар расказвае, што лясгасы вобласці штогод перадаюць на паліва насельніцтву многія тысячы кубаметраў фанернай бярозы і вольхі, якую атрымліваюць ад высечак уходу.

Плешчаніцкі і Бягомльскі леспрамгасы вывозяць на сплаў рэзанансную сыравіну, якая потым трапляе як звычайны піловачнік на лесазаводы і перапрацоўваецца ў лепшым выпадку на дошкі.

Паводле вызначэння спецыялістаў, у нашых сплаўных рэках ляжыць столькі драўніны, што, узняўшы яе, можна было б забяспечыць гадавую патрэбу не аднаго, а некалькіх прадпрыемстваў.

А колькі гіне каштоўнай драўніны на лесасеках! Падлікі паказваюць, што прыкладна толькі 30 працэнтаў яе ідзе на справу, а ўсё астатняе гіне, як адыходы. Ці не занадта такое марнатраўства? Ці можна далей мірыцца з фактамі, калі найлепшыя дубы і сосны перапрацоўваюцца ў цэхах шырспажыву лясгасаў на вырабы, якія можна атрымаць з адыходаў, а не з першагатунковага дрэва? Ці можа далей спакойна назіраць грамадскасць, як на вачах ва ўсіх знішчаюцца калгасныя лясы?

Нямала фактаў можна прывесці, як асобныя кіраўнікі калгасаў, прадпрыемстваў бесклапотна і без усякай патрэбы знішчаюць тое, што вырошчвалі нашы продкі. У вёсцы Сноў Нясвіжскага раёна жыве старшыня калгаса імя Калініна тав. Аляксанкін. Хваляць яго ў раёне і вобласці, як добрага гаспадара. Але стаяў пад акном у Аляксанкіна векавы ясакар, усю вуліцу ўпрыгожваў. Не спадабалася дрэва жонцы Аляксанкіна, бо яно давала густы цень. І ясакар ссеклі.

Паглядзіце, каля дарог, якія перасякаюць Беларусь уздоўж і ўпоперак, колькі ляжыць зломленых дрэў! Шафёры высякаюць маладыя сосны і кідаюць іх пад колы машын, калі тыя буксуюць, трактарысты бязлітасна топчуць дрэўцы гусеніцамі сваіх трактароў, паляўнічыя, рыбакі, пастухі раскладваюць вогнішчы, ад якіх нярэдка ўзнікаюць пажары. Увогуле ад безгаспадарчасці гінуць сотні тысяч дрэў.

Час перайсці ад слоў да справы ў выкарыстанні адыходаў драўніны. У рэспубліцы зроблены ў гэтым напрамку першыя крокі. Калектыў Гомельскага фанерна-запалкавага камбіната арганізаваў вытворчасць крэслаў з адыходаў шпону. Усё абсталяванне зроблена сваімі сіламі. Крэслы з гнутаклееных дэталей па сваіх якасцях не ўступаюць сталярным крэслам, якія робяцца з піламатэрыялаў. Пачын гамяльчан падхоплены многімі другімі прадпрыемствамі Саўнаргаса. Там-сям з адыходаў вырабляецца стружкавая пліта, якая шырока выкарыстоўваецца для вырабу мэблі і ў будаўніцтве.

Але гэта толькі першыя крокі.

Сучасная хімія бязмерна пашырыла магчымасці ў выкарыстанні адыходаў драўніны. Усё, што раней лічылася адыходамі, зараз можна пераратвараць у патрэбныя і каштоўныя рэчы.

Кара любых дрэў прыгодна для вытворчасці пластычных мас, а звычайная бяроста замяняе натуральны корак і служыць сыравінай для выпрацоўкі лінолеума. З хвоі вырабляецца спажыўная мука для жывёлы, якая па сваіх якасцях не ўступае самым лепшым кармам. Яна ўтрымлівае не толькі вітаміны, але і такія элементы, як кобальт, медзь, цынк і іншыя. На кожным гектары высякаемых ельнікаў можна здабыць да 15 тон такой мукі.

Ад перапрацоўкі звычайнага пілавіння можна атрымаць крышталічную глюкозу, кармавыя дрожджы, спірт, гліцарын. На адну тону гліцарыну выдаткоўваецца 9 тон харчовага тлушчу. А тую ж тону гліцарыну можна атрымаць з 10 тон сухога пілавіння.

Такіх яскравых прыкладаў можна прывесці многа. Саўнаргас і Дзяржплан рэспублікі распрацавалі каштоўныя мерапрыемствы па шырокаму выкарыстанню адыходаў драўніны, але яны вельмі слаба ўкараняюцца ў жыццё.

Берагчы і рацыянальна выкарыстоўваць кожнае дрэва можна будзе толькі тады, калі мы навучымся поўнасцю спажываць адыходы драўніны. Само жыццё патрабуе ад кожнага чалавека беражлівых адносін да роднай прыроды.

Ул. МЯЖЭВІЧ.

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00089.

Друкарня імя Сталіна.